№ 79 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7. Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 79 (171). Год II. Вільня, 2 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

**РЫМ. На парыжскай, конфэрэнціі будуць такжэ саюзьніцкіе міністры заграничных спрау.**

## 1 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі артылерыйская бітва крапчэла пры моры і ў завароці Іпра.

Англіцкіе і францускіе лятуны ў бэльгійскіх ваколіцах зрабілі ў апошнім часі значные матэр'яльные школы. Многа было і ахвяр людзьмі паміж цывільных жыхароў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Уздоўж Эн, на паўночным заходзі ад Рэймсу і ў Шампані — ажыўлены агонь. У разведках мы ўзялі палонных.

---

Нашы лятуны ізноў скінулі бомбы ў сярэдзіну Лондона. Відаць былі чысьленые пажары. Іншые лятуны атакавалі Маргет і Дувр.

Мы збілі ўчора 14 варожых лятуноў.

**Усходні тэатр:**

Палажэньне без перамен.

Мейсцовые пешые стычкі вызвалі жывейшы агонь.

---

ШТОКГОЛЬМ. Тымчасовы ўрад загадаў распусьціць пецярбурскіе палкі, каторые прынімалі ўчасьце ў крывавай дэмонстраціі ў чэрвені месяцу. Аднак, рада раб. і салд. супраціўілася гэтаму, ды яе паддзержаў новы пецярбурскі глаўнакамандуючый, генэрал Полковніков. Тымчасовы ўрад з гэтай прычыны ўзяў свой прыказ аб роспуску назад.

Адмірал Вердеревскій, не маючы магчымасьці завясьці лад у Балтыцкім і Чорнаморскім флоце, падаўся у адстаўку.

Цэнтральны спаўніцельны камітэт балтыцкаго флоту звярнуўся да тымчасоваго ўраду з жаданьнем той-час аб'явіць замірэньне на ўсіх фронтах і пачаць мірные перегаворы бяз згоды саюзьнікоў.

У Пецярбурзі с прычыны прапажы 200 скрынь з узрыўчатым матэр'ялам „робурыт'ам“ зноў ждуць разрухоў.

Даносяць аб спадзеваным апавешчэньні аўтономіі Грузіі.

З Элізаветграду, Кіева, Тамбова і Одэссы даносяць аб разрухах на грунці голаду, каторые мелі хавактэр пагромаў.

„Нов. Вр.“ пішэ, што ўрад праводзіць пляновую эвакуацію сталіцы. Вывезены ўжо ўсе школы. Камітэт, каторы кіруе эвакуацией, у сваей адозве апавешчае, што, хаця німа асновы баяцца скораго прыходу ворагоў у сталіцу, аднак, труднасць страваваньня прымушае загадзя ачысьціць место.

ПЕЦЯРБУРГ. Рада раб. і салд. у Кіеві і ваенная організація палудзенна-заходняго фронту адмовіліся выдаць генэрала Денікіна сьледчай камісіі да справы генэрала Корнілова.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Расейскае ваеннае апавешчэньне з 28 верасьня даносіць:

„26 верасьня у 11 гадз. вечара контрмінаносец „Охотнік“ на поўдні ад острава Эзэля наткнуўся на варожую міну і шыбка затануў. У лодцы выратаваліся 11 матросаў, у тым ліку 4 раненых. Ніхто з афіцэроў не хацеў пакінуць тануўшаго судна, і ўсе яны пагіблі“.

БАЗЭЛЬ. У розных італьянскіх местох на поўдні ўзняліся сур'ёзные разрухі. У некаторых местох народ рэбаваў крамы са спажыўнымі прадуктамі. Каб затушыць разрухі, послано войско, устаноўлен ваенны стан і адкрыты ваенные суды.

---

*Вільня, 2 кастрычніка.*

Літоўская газэта „Lietūvos Aidas“ тлумачыць, якіе варункі павінны мець кандыдаты на прэдстаўнікоў нацыянальнасьцей, каторые ў Літве становяць меншасць і для каторых у Літоўскай Радзе пакінуты некольki мейсц.

Літоўская Рада хочэ, „каб усім жыхаром нашаго краю былі дадзены правы, з якіх здаўна карыстаюць жыхары ўсіх культурных старон“. Стоючы на гэткім грунці, апошняя літоўская конфэрэнція пастанавіла даць у Літоўскай Радзе мейсцо і прэдстаўнікам нацыональных меншасьцей. Узнялося толькі пытаньне, хто і як мае гэту меншасць прэдстаўляць? «Дагэтуль пагляды на гэта былі розные, бо людзі розна глядзелі на самую Літву». — «Мэта ўсіх літвіноў, як асабліва выявілося на апошняй конфэрэнціі, гэта — **Літва ў этнографічных межах** толькі с канечне патрэбнымі дзеля экономічнаго жыцьця папраўкамі. Гэтак літвіны, маючы ў сваім краю перэвагу, займуць пануючае мейсцо, а тады справа меншасьці наагул будзе зусім ясная. Тут ужо ня прыдзецца весьці перэговоры с тэй ці іншай нацыональнасьцю, як у прыпадку, калі-б мы з ей злучаліся на роўных правох,—а прыдзецца толькі ўважаць на тое, каб ім былі дадзены правы, прыпадаючые меншасьці. Іначэй кажучы: меншасьцям павінна быць дадзена магчымасць бараніць іх патрэбы, але яны ня могуць пастанаўляць аб справах, нязгодных з мэтамі літоўскай большасьці». З гэтай прычыны літоўская конфэрэнція паставіла для будучых прэдстаўнікоў меншасьці два варункі. Першы—тое, каб у число членаў Літоўскай Рады былі прыняты толькі такіе прэдстаўнікі інтэрэсоў меншасьці, каторые не ідуць проці літоўскіх палітычных мэт. Другі—каб прэдстаўнікі меншасьці ў Літоўскай Радзе, калі не гавораць, дык прынамсі каб разумелі па літоўску. „Адбудаваная Літва, згодне з мэтай літоўскай большасьці, павінна быць краем літоўскім, і нельга дапусьціць, каб самі літвіны дзеля меньшасьці былі прымушэны ужываць чужой мовы“.

Заява «Liet. Aidas» раскрывае ўрэшці карты літоўскіх палітыкоў, і міма яе нельга прайсьці моўчкі. А на першы плян высоўваецца тут тая аснова, на каторай літвіны хочуць будаваць сваё будучае дзержаўнае жыцьцё.

Калі-б літвіны гаварылі толькі аб выдзяленьні з нашаго краю этнографічна-літоўскаго абшару, дык, хоць гэта разбівае асновы экономічнаго жыцьця як беларускаго, так і ў роўнай меры літоўскаго народу, з імі трудна было-бы спірацца: яны маюць права самі быць судзьдзямі сваей долі. Але літоўскіе палітыкі гэтае самае права, на каторым апіраюцца, гаворучы аб сабе, без ніякай цэрэмоніі нарушаюць, як толькі йдзе гутарка аб іх суседзях—беларусах. Так, яны кажуць аб «канечне патрэбных дзеля экономічнаго жыцьця папраўках» граніц этнографічнай Літвы, і зусім ясна, што гэткая «папраўка» мае быць зроблена коштам беларусоў — коштам беларускай віленшчыны.

Такое становішчэ ня толькі ня згодліво с прынцыпамі эўропэйскай дэмократціі аб праве нацыональнасьцей: яно становіць варожы крок проці беларускаго народу, проці яго права самому станавіць аб сабе і проці яго інтэрэсоў, каторые вымагаюць, каб усе беларусы былі злучэны разам. І беларусы павінны пратэставаць проці гэтаго самым станоўчым спосабам.

Гэтак сама павінны мы пратэставаць і проці штучнаго абэртаньня беларусоў у «нацыональную меншасць». «Liet. Aidas» выказывае зусім ясна думку, што літвіны хочуць вырэзаць з беларуска-літоўскіх зямель такую «Літву», ў каторай літвіны былі бы пануючай нацией. Але вядома, што беларусоў усяго ёсць на сьвеці больш за 9 мільёнаў, — значыць, утрая больш, чым літвіноў; вядома, што ў межах окупаціі число беларусоў ня менш числа літвіноў. І мы ніколі ня згодзімся занімаць пры літвінох становішчэ нацыональнай меншасьці!

Само сабой разумеецца, што с прыведзенымі тут палітычнымі мэтамі літвіноў ня можэ пагадзіцца ніводзін сьвядомы беларус. Апрыч таго, як гэта ні сумна, трэба прызнацца, што ніхто з вядомых нам беларускіх грамадзкіх дзеячоў ня толькі па літоўску не гаворыць, але і не разумее. Значыць, ясна, што між беларусамі ня знойдзецца такіх прэдстаўнікоў, каторые адпаведалі-бы літоўскім варункам, калі-б нават хто-колечы з іх прыстаў на недастойную народу нашаго ролю: быць безгалосым членам Літоўскай Рады.

---

## „Бела-ляхі“.

Пад Расеей аб беларусоў ваевалі між сабой польскіе і маскоўскіе нацыоналісты. Пры гэтым кожная старана старалася „прыпісаць“ беларусоў да сваей нацыональнасьці, або, кажучы проста, абярнуць у палякоў ды ў маскалёў.

Цяпер аб беларусоў у межах нямецкай окупаціі узнялася новая вайна. Гэтым разам яе вядуць палякі і літвіны, і кожная старана маніцца прылучыць нашу зямлю

і наш народ, разарваўшы на кускі, да сваей дзержавы: палякі — да Польшчы, літвіны—да „маленькай Літвы“, вырэзанай з нашаго краю штучна ў межах губэрні Ковенскай, часьці Сувальскай і часьці Віленскай з Вільняй і беларускімі ваколіцамі яе.

Зусім так, як бытцым беларусы—гэта „нічыя рэч“, бытцым яны самі не маюць ні голасу, ні права самым судзіць аб сваей долі і аб долі таго вялізарнаго краю, ў каторым не палякі, не літвіны, а беларусы становяць большасць, у каторым у часах незалежнаго бытаваньня беларускі язык быў агульна і дабравольна прынятым урадовым языком!...

Але беларусы маюць зусім выразные нацыянальные і палітычные ідэалы, каторые ў часі вайны выявілі даволі ярка. За іх права стаіць уся дэмократыя Эуропы, каторая апавешчае прынцып самаапрэдзяленьня нацыянальнасьцей. І тые, хто хоча раздзерці наш народ і наш край на кускі, прыкрываюць свае захватные апэтыты, наіўна фальшуючы прызнаную і очывістую праўду.

Гэтак, літвіны выдумалі „навуковую“ тэорыю, бытцым у Вялікім Княвьстве Літоўскім нават і мовы беларускай не было, і беларусы бытцым то пісалі па . . . царкоўна-славянску! Мала таго: ў мэмор'яле літоўскіх палітычнх дзеячоў, пададзеным нямецкаму імперскаму канцлеру і надрукованым у газэці „Lietuvos Aidas“, яны даводзяць, бытцым ніякіх беларусоў на сьвеці німа, бо праваслаўные беларусы—гэта маскалі, а каталікі — то . . . . літвіны, каторые толькі гаворацъ „польска - расейскім жаргонам“...

Палякі ідуць падобнай жэ дарогай. Яны ўжо даўно—раней за літвіноў—зрабілі „адкрыцьце“, што ў нашым краю хто каталік, той і паляк. Гэтак яны лічылі за „палякоў“ ня толькі каталікоў-беларусоў, але і літвіноў. Цяпер апэтыт з'есьці літвіноў, каторые аказаліся даволі цьвёрдымі, у палякоў прапаў, і яны цікуюць з двайной энэргіей на беларусоў. Ды не адстаюць ад літоўскіх нацыяналістоў у тварэньні „навуковых“ тэорый: яны ўжо аб'явілі, што беларусы-каталікі—гэта не беларусы, а бела-ляхі!

Гэтае адкрыцьце зрабіла кракаўская польская газэта „Nowa Reforma“ ў № 433 з 19 верасьня гэтаго году—ў доўгай стацьці аб нацыянальных адносінах на занятых немцамі беларуска літоўскіх землях. Газэта ўвесь ціжар развязкі нацыянальнаго пытаньня ў нашым краю бачыць у тым, што расейская урадовая статыстыка была неправільная. Вось, аб'явіўся такі польскі „спэцыяліст“ ад нацыянальнай статыстыкі, Малішэвскі, каторы расейскіе статыстычные данные „паправіў“: ён проста запісаў „у палякі“ ў некаторых паветах усіх беларусоў-каталікоў, у іншых—палову іх. На чым жэ апірае ён сваю „папраўку“? А на тым, што с таго часу, як цар Мікалай I ў 1839 гаду забараніў у каталіцкіх касьцёлах на Беларусі ужываць беларускай мовы, касьцёльнай мовай у нас сталася польская мова, ды з гэтай прычыны цёмны народ называе рымска-каталіцкую веру „польскай“ верай. Праз касьцёл беларусы апалячываюцца, мешаюць у сваей гутарцы польскіе словы. Касьцёл злучае іх с палякамі, а расейскае правіцельство ўсе агранічэньня, установленые для палякоў, у роўнай меры адносіло і да беларусоў-каталікоў. Вось, на гэтым грунці „Nowa Reforma“ лічыць, што ўсіх беларусоў - каталікоў можна спакойна перахрысьціць у „бела-палякоў“ і прыпісаць іх да польскаго насяленьня...

Ды ўжо лішне белымі ніткамі шыта гэта работа, і шкода часу вясьці на славах спорку с падобнымі лжыва-навуковымі тэорыямі. І беларусы на іх даюць найлепшы адказ сваей творчай нацыянальнай працай, ня словам, а дзелам заяўляючы перад усім сьветам, што

„жыў Беларус і будзе жыць“!

*I. Мелешка.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Вестка с палону.** У Рэдакцію «Гомана» прыйшла вестка, што ў палон у Аўстрыю ў палове гэтаго месяца папаў беларускі грамадзкі працаўнік, Янка Станкевіч, вядомы ў беларускай прэссе пад імем «Янучонка». Нейкі час ён працаваў у «Нашай Ніве» і ў беларускай каталіцкай газэці «Беларус» у Вільні. Перад самай вайной за беларускую пропаганду яго выдалілі з духоўнай сэмінары, а сьледам за гэтым узялі ў салдаты.

× **Прымусовая навука.** Хаця прымусовая навука ў нашым краю ешчэ не заведзена, аднак, паводлуг выясненьня ўласьцей, асобы, падпісаўшые заяву, што хочуць пасылаць дзяцей у школу, гэтым самым абязываюцца пілнаваць, каб дзеці хадзілі акуратна. Іначэй іх будуць караць.

× **Паліцэйскі час.** Ад 1 кастрычніка цывільные асобы могуць хадзіць па вуліцах толькі да 10 г. вечара.

× **Забарона прыносу прадуктоў.** «Wiln. Ztg.» напамінае, што ўселякая перавозка ці пераноска спажыўных прадуктоў без спэцыальнаго пазваленьня ўласьцей забаронена, і прадукты конфіскуюцца.

× **Прадажа рыбы.** На Троцкай вул., у местовай краме № 5, наладжэна прадажа рыбы.

Ад 1 кастрычніка рыбу прадавацімуць на рыбным рынку акуратна ў кожын панядзелак, аўторак, чэцьвер і пятніцу.

× **Аплата тэлеграм.** За тэлеграмы трэба плаціць за кожнае слова ў межах нашаго краю, а так сама пасылаючы ў варшаўскае гэнэрал-губэрнатарство і ў Нямеччыну, па 17 фэн., але за ўсю тэлеграму найменш 1 м. 60 фэн.

× **Падвоз папірос.** Прыбылі вялікіе партыі папірос, каторые могуць зусім здаволіць патрэбу. Прадажа за вышэйшую цану, чым на іх напісана, забаронена, і прадаўцоў па заяве пакупцоў будуць за гэта караць.

× **У міравым судзе.** Сталяр Язэп Цівіліс і канцэлярскі чыноўнік Турло ў начы с 17 на 18 жніўня прышлі у кватэру Шмуля Пётака і Фэйгі Табуа і, выдаваючы сябе за «крымінальную паліцію», рабілі обыскі. У Табуа яны ўзялі 13 руб. хабара. Суд засудзіў самазванцоў на 4 мес. ў вастрог кожнаго.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 26—27 | + 22,5° | + 7,8° |
| 27—28 | + 18° | + 8° |
| 28—29 | + 13° | + 9° |
| 29—30 | + 13° | + 5° |

# З усяго Краю.

## Краёвая Рада Курляндзіі.

Краёвая Рада Курляндзіі складаецца з гэткіх 20 асоб:

прэдстаўнікі вялікіх паноў — Куно Ган, бар. Алекс. Радэн, бар. Мікалай Мантэўфэль, бар. Фітінггоф, бар. Арвэд Ган, бар. Рудольф Гротгус;

прэдстаўнікі дробных землеўласьнікоў—стараста Эрнэст Сонэль, стараста Тодар Сірінг, стараста Аўгуст Вэшнэ, гаспадар Кароль Білянд, старасса Ян Ранан, стараста Якуб Шмідт;

прэдстаўнікі мест—галава Мітавы, Шмідт, адвакат Вільгэльм Мэльвіль, з Лібавы, 'валадзелец друкарні Бэрзінг, з Лібавы, адвакат Ліч, з Гольдінгэна;

прэдстаўнік шляхты — князь Лівэн.

прэдстаўнікі духавенства—лютэранскаго: главны супэрінтэндэнт Бэрнэвіц, старшы пастар Бэрнэвіц; каталіцкаго: пробашч Ясэнас.

Латышскі прэдстаўнік, Бэрзінг, з Лібавы, пасьля выбароў заявіў:

«Нас мучыць адна забота: думка аб нашых братох у Ліфляндзіі і аб магчымасьці разлукі з імі. Мы маем цьвёрдую волю і надзею не астацца разарванымі, а ізноў злучыцца разам. Гэту заяву я цьвёрда жадаю падаць нямецкаму упраўленьню».

ЛІБАВА. У Курлядзкай Радзі (Landtag) заседаюць ад места Лібавы немцы Мэльвіль, Адольфі, Баркоўскі, ад латышоў—Бэрзінг і Бірк і ад жыдоў—Фалькэнгоф.

## Паварот уцекачоў.

С прычыны заняцьця немцамі Рыгі у наш край вертаецца 70.000 уцекачоў. Яны едуць да хаты часьцю вазамі, часьцю вялікімі

# Перажыткі паганскаго сьветапагляду у беларусоў.

(Гл. «Гоман» № 66—78).

**Зямля.** Адношэньне беларуса да зямлі - карміцелькі носіць такжэ фэтышыстычны характар. Адпраўляючыся ў чужую старану, беларус бярэ жмэну роднай зямлі і, зашыўшы яе у палатно, вешае на грудзёх: калі прыйдзецца памерці ў чужыне, то яго астанкі будуць спачываць разам з роднай зямліцай. Самая страшная прысяга для беларуса — гэта прысяга, учыненая з зямлёй у губе, або ў руцэ. Глыбока ўкаранілося сярод беларусоў паняцьце аб зямлі, як аб агульнай для ўсіх маці. Вялікіх грэшнікоў земля не прыймае, выкідае з магіл, не дае ім супакою. Вераць, што перад вялікімі народнымі бедамі земля стогне раніцамі, перад усходам сонца; перад голадам да стогну зямлі дамешываецца плач дзяцей.

**Хлеб.** Да хлеба беларус адносіцца з вялікай пашанай. Пячы хлеб павінна кабета «чыстая», бо іначэй ён не удасцца. Крышыць хлеб, раскідаць яго — вялікі грэх: хто гэтак робіць, ня будзе мець хлеба. Лепей за ўсё хлебные крошкі і скарынкі паліць у печы.

У сямейных урочыстасьцях хлеб займае высокае мейсцо. С хлеба варожаць. Калі ў печы хлеб разваліцца на дзьве палавіны — гэта ня к добраму: памрэ гаспадар, або гаспадыня. Калі ў мякішы зробіцца простападлая шчэлка — гэта варожыць блізкі раздзел сям'і, выхад замуж дачкі, або жаніцьбу сына.

**Пашана каменяў.** Адносна каменяў захавалася вера, што ў колішніе часы яны мелі чуцьцё, расьлі і множыліся; але, калі людзі прагневалі Бога, ён пракляў людзей і зямлю, — і земля перэстала радзіць, а камені перэсталі расьці. Шмат ёсць на Беларусі каменяў, аб каторых апаведаюць, што ў іх жылі краўцы, якіе шылі ўсім дарма. За работу ім прынасілі есьці і піць. Гэта паказывае, што у даўную даўніну камені гэные былі шанаваны і ім складалі ахвяры. Гэткіх каменяў, з якімі звязана тая, або іншая легенда, каменяў праслаўленых цудатворчай сілай, шмат ёсць у Беларусі.

**Горы.** На Беларусі высокіх гор німа. Тое, што тут называюць гарамі ня што іншае як толькі узгоркі, болей або меней высокіе. Аднак, ёсць немала гор, с каторымі звязаны легенды і забабонные апаведаньня. Яны зводзяцца главным чынам да таго, што на нейкай-то гарэ стаяла цэрква, або касьцёл, і праваліласяя. Гэткіе легенды і апаведаньня тлумачацца тым, што ў даўные часы на гярах былі паганскіе копішчы (сьвятыні) і аўтары. У беларускіх песьнях захаваліся намёкі паказывающчые на тое, якое значэньне мелі горы у абрадавых сьвятках. Гэтак у аднэй валачобнай песьні выхваляецца гаспадар, праславіўшыйся сваім дзіўным дваром:

На яго дварэ ды стаяць горы,
Ды стаяць горы высокіе;
А на тых гарах лежаць брусься,
Ды лежаць брусься цісовые;
А на тых брусьсях стаяць стаўбы
Ды стаяць стаўбы малеваные;
А на тых стаўбах ды вісяць катлы,
Ды вісяць катлы адліваные;
А пад катламі гараць агні,
А гараць агні ясьнееькіе,
Ды ідуць дымкі сіненькіе;
Там сідзяць дзядкі старэнькіе,
Вараць воскі жаўценькіе,
Сушаць сьвечы двайчастые,
Двайчастые і трайчастые;
Спадзяюцца любых госьцейкоў,
Любых госьцейкоў—вялікоднічкоў.

Гэта бязсумніва абраз паганскай жэртвы з народным банкетам. Зверхняя старана гэтай абрадавай урочыстасьці вельмі вытрымана,— ад яе так і вее духам старасьвеччыны; але тут ужо «дзядкі старэнькіе», паганскіе духоўнікі, ня вострацъ нажоў сталёвых, каб рэзаць казла, а варуць воскі, сучаць сьвечы ўжо не паганскаму, а хрысьціянскаму Богу. Гэта песьня верна старасьвецкім звычаям, якіе вымагалі, каб вядомые паганскіе сьвяткі адбываліся на горах.

І цяпер у Беларусі закліканьне вясны і другіе веснавые звычаі адбываюцца неадзоўна на гарах.

**Пашана дрэў.** Па сягоняшні дзень у Беларусі захавалося пакланеньне дрэвам, асабліва старым дубом. Не раяць рубаць дрэво, каторае скрыпіць, бо гэта верная прымета, што ў ім чэлавечая душа мучыцца. Усе расьліны, вераць, размаўляюць між сабой, і ёсць такіе людзі, што разумеюць іхню размову і з гэтай прычыны ведаюць, якая у якіх расьлінах крыецца гаручая сіла.

II.

Вышэй, у пачатку раздзелу, мы закранулі пытаньне аб процэссе уяўленьня сабе первабытным чэлавекам акружаючых яго тайн прыроды, якое выражалося у перэнясеньні ўласьцівасьцей чэлавечай асобы на акружаючые рэчы. Побач з гэтым, у душы первабытнаго

баркамі па рацэ Аа. Між імі пераважываюць селяне, ў тым ліку кабеты. Але ёсць такжэ старцы і бацькі сямей.

---

БЕЛАСТОК. Начальнік упраўленьня Беласток-Гродня апавешчае новы загад аб галоўшчыне. Асобы, каторые маюць у год больш за 800 м. даходу, плаціцімуць павялічэны налог, ды пры гэтым даходы з гандлю і прамышленасьці ў тым даходзі не рахуюцца. Павялічэная галоўшчына становіць: 1% ад даходу 800—1000 м., 2%—1000—2000 м., 3%—2000—3000 м., 4%—3000—4000 м., 5%—4000—5000 м. і 6%—пры вялікшым даходзі.

БЕЛАСТОК. Тутэйшая работніцкая страўня адкрылася 21 лістапада 1915 г. За першы дзень яна выдала 100 абедаў, зімой 1915—1916 г.г. выдавала ў дзень сярэднім лікам 850. У карантын для хворых на тыфус выдано за зіму 50.000 порцій. У маі 1917 г. пры страўні заложэн прытулак для дзяцей. За час свайго істнаваньня страўня выдала шмат больш за поўмільёна абедаў цэннасьцю на 90.000 м.

БЕЛАСТОК. У пазапрошлую суботу адзін старэц, праваслаўны беларус, узлез у местовым лесі на дрэво, каб зрубаць сухое гальлё, ды зваліўся з дрэва, зламаўшы шыю і абедзьве ногі. Яго знайшлі ўжо нежывога і ў той жэ дзень пахавалі. Пры гэтым першы раз ад часу прыходу немцоў на пахаронах пеяў хор.

ВІШНІЦЫ, влодаўскаго пав. У аднаго тутэйшаго селяніна ў начы укралі трох каней: сіўку, буланаго і каштана. Селянін суліць высокую награду таму, хто верне украдзеных каней.

ГРОДНЯ. Аднаго мясьніка, каторы прадаваў мясо не з бойні, пакаралі штрафам на 75 руб.

У Францішканскім Касьцёлі ад 2 да 4 кастрычніка будзе адбывацца 40-гадзіннае набажэнство.

МАРДЗІЧЫ. Замест Замоша, станція дзеля паездоў назначэна тут. Поезды стаяць тут ад 5 г. 36 м. да 5 г. 42 м. раніцы, ад 7 г. 45 м. да 7 г. 47 м. вечара, ад 9 г. 37 м. да 9 г. 39 м. раніцы і ад 9 г. 5 м. да 9 г. 8 м. вечара.

КОЎНА. Таргові аддзел пры Stadthauptmann'е скупляе сьвежые каштаны па 6 м., сухіе—па 12 м., буковае семя—па 28 м. і жалуды—па 14 м. за 100 кілогр. (=6 пудоў). Апрыч таго пры дастаўцы кожнаго цэнтнэра можна купіць 1 расейскі фунт цукру за 2 м.

КОЎНА. Тутэйшые школы распушчэны да 17 кастрычніка.

ВІЛЬЯМПОЛЬ, пад Коўнай. На дарозі з Мімішканцоў у Кудранцы знайшлі дзяўчынку 6—7 гадоў, каторая кажэ, што яна — Ядвіга Макоўская з Мар'ямполя.

ПІЛЬВІШКІ. Хаця ўраджайня скрозь добры, ён вышэй леташняго. Ячмень не ўдаўся, асабліва слаба салома. Затое бульба урадзіла добра.

СУВАЛКІ. „Так сама юбілей!“ —Гэтымі днямі ў новым пункці дзеля ачысткі ад вошы ачышчэна 10 тысячная асоба.

НОРВАЙЦЫ. Староста і жонка яго засуджэны на 300 м. штрафу кожын за тое, што с сабранаго у грамадзе дзеля аддачы нямецкай уласьці малака яны збіралі сьметанку.



СТРЭЛЬЦЫ, Оліцкаго пав. У месяцу чэрвені ў адзін вечар да ўдавы Альжбеты Етаўтас прышло двое невядомых мужчын, асьляпілі яе электрычнай лямпай, павалілі на зямлю, пабілі крэпка яе і дачку і, каб перэпалохаць, стрэлялі са стрэльб. Пасьля абрабавалі ўсю хату і ўцяклі. Адзін з іх, як выкрылося, быў Андрэй Томашунас, з Гуюн. Аднак, цьвёрдых улік не было, і сувальскі акружны суд апраўдаў яго.

МІТАВА. Дзеля навуковых досьледоў аб руінах крыжацкіх замчышч у Курляндзіі выззван з Нямеччыны спэцыяліст, Бэрнард Шмідт.

ПЭРКУНЭН. Рыбакі Тамсон і Бірсэнэк, едучы сюды з Лібавы купляць бульбу, вывярнуліся з лодкай. Усю ноч яны бароліся с хвалямі і звалі аб помач, але дарма: Бірсэнэк утануў, і толькі Тамсон выратаваўся.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ЖЭНЕВА. Клемансо ў сваей газэці занімаецца пытаньнем аб магчымасьці расейскаго сэпаратнаго міра. Калі Расея хочэ разарваць звязь з другімі саюзьнікамі, дык Франція мае право даць расейскім патрыэтам магчымасць вывясьці ашуканую націю на правільную дарогу. Клемансо жадае хутчэйшаго сазыву парыжскай конфэрэнціі.

ПЕЦЯРБУРГ. (В.Т.Б.). Ўсерасейская дэмократычная конфэрэнція адкрылася ў местовым тэатры пры ўсіх членах ураду і дыплёматах.

Тэрэшчэнко выйшоў у адстаўку. Габінэт цяпер чыста соцыялістычны.

С прычыны адкрыцьця конфэрэнціі ў Пецярбурзі адбыліся вялізарные дэмонстраціі за мір.

Орган рады раб. і салд. „Ізвестія“ с прычыны адкрыцьця конфэрэнціі пішэ: „Задачы яе — гэткіе: 1) знайсьці дарогу дзеля супольнай працы ураду з дэмократычнымі саюзамі; 2) устанавіць формы упраўленьня да устаноў-

---

чэлавека развіваўся і другі працэсс, каторы ў навуцы называецца *анімізмам*.

Сэнс анімізму тоўпіцца ў тым паняцьці, што чэлавек і ўсе акружаючые яго рэчы — двайчасты; што яны складаюцца з відочнай, датыкальнай абалоны, за якой укрываецца нешта няўлоўнае, тонкае, але ўсё-ж такі істнуючае і цесна звязанае з нашым асабістым бытам, з нашымі мукамі і дабрабытам.

Уявіце сабе дзікуна, якому прысьнілося, што ён пайшоў у ловы на аленя, забівае яго, сквапна п'е яго цёплую кроў, з'едае смачные кавалкі мяса... Ен бачыць сваіх бацькоў, суседзёў і знаёмых, даўно памершых. Словам, ён у сьне жыве поўным жыцьцём, крыху толькі адменным ад таго, што на яве.

Якое тлумачэньне можэ даць дзікун усім гэтым з'явам? Якіе ён павінен зрабіць з гэтаго вывады? Ен непарушна лежаў, закрыўшы вочы, што сьведчаць быўшые у часе сну ў хаці, а побач ясна памятае, што хадзіў, быў у ловах, еў, піў і інш. Пагадзіць гэту супярэчнасць можна толькі дапусьціўшы, што ў ім істнуе другое «я», каторае можэ пакідаць сваю абалонку, цело і ісьці ў сьвет, іншый ад нашаго, бо ў гэным сьвеці сустрэчаюцца такіе з'явы, якіх у гэтым сьвеці не ўбачыш. І, таго, што ён бачыў у сьне сваіх далёкіх знаёмых, ён робіць вывад, што гэтае „я“—іхные душы, так сама, як і яго душа, могуць пакідаць цело на болей, або меней доўгі тэрмін. С таго, што ён бачыў у сьне свайго дзеда або суседа, якіе даўно памерлі, ён робіць вывад, што памерла адно толькі грубая балона дзедава, а што ўнутрэная істота перэсялілася ў іншы сьвет.

Перажыткі анімістычнаго характару жыва захаваліся у сьветаглядзе беларусоў. Але мы тут разгледзім толькі тые з іх, каторые звязаны с прэдстаўленьнямі аб сьне і сонных сцэнах.

Між беларускіх селян захаваўся ешчэ пагляд, ўласьцівы людзям цёмным, што ў часе сну душа выходзіць с цела і ходзіць па гэтым і тым сьвеці. Па здогаду адных, душа як бытцым выцягаецца с цела у кшталце бязконца доўгай стужкі, каторая астаецца адным канцом у чэлавекў, а другім можэ быць, дзе хочэ. Другіе верацць, што душа ў часе сну выходзіць саўсім с цела, а калі сьпячаго будзяць, — пасьпешае назад. Крэпкі сон, калі чэлавека трудна разбудзіць, тлумачаць вялікім аддаленьнем душы ад цела.

Сны — гэта тое, што бачыць душа у часе яе падарожы. У праўдзівасьці гэтаго беларусы німала не сумневаюцца. Толькі трэба бачэнае душой у часе сну ўмець разумець. Адгэтуль тлумачэньне сноў. Адно разумеецца проста, другое алегорычна, або тлумачыцца наадварот, словам, даецца шырокі прастор фантазіі у тлумачэньні сноў.

З вышэй сказанаго часьцю відаць, што беларусы уяўляюць сабе душу, як нешта матэр'яльнае. Душа, паводле нашых селян, гэта «дух», пара, як у лазьні, якая можэ зменяць сваю форму і прыймаць розные выгляды. Многа хто запэўняе, што будучы пры уміраючым, бачылі, як душа парай выходзіць з губы.

Па сьмерці чэлавека душа яго не адразу пераходзіць у замагільны сьвет: сорак дзён яна астаецца ешчэ ў роднай вёсцы; з іх сперша шэсць дзён валодаецца каля дому і тры дні па сваей аселіцы. Пасьля гэтаго душа ідзе ўжо на той сьвет. Гэтые пачародные пераходы душы у яе замагільны сьвет сьвяткуюцца «памінальнымі сталамі», відавочна астаткамі паганскай трызны, абапёртымі на тэй думцы, што чэлавеку і па сьмерці трэба есьці і піць.

Першы памінальны стол устраіваецца ў дзень пахову і запрашаюцца да гэтаго столу ўсе быўшые на хаўтурах. Абавязковые стравы: куцьця, клёцкі і бліны; чым болей страў, тым большая пашана памёршаму. Застольные гутаркі пасьвячаюцца памяці нябошчыка. Другіе памінальные сталы—шасьціны, дзевяціны, сарочыны нічым ня рожняцца ад вышэйапісанаго.

У нас дагэтуль верацць, што вясной, разам з ажыўленьнем прыроды, с прабуджэньнем яе ад зімоваго сну, ажываюць і душы памерлых і выходзяць с цесных дамовак на вольны сьвет. Думаюць, што ім патрэбна піта і еда, але яны п'юць і ядуць рэдка: тры—чатыры разы у год. Дзеля здаволеньня гэтай патрэбнасьці і на знак пашаны к дзядом пэрыодычна устраіваюцца памінальные сталы «дзяды».

**Дзяды.** Самые урочыстые дзяды бываюць вясной і ў восень.

Вясной прыпадаюць «дзяды» на радаўніцу; гэта «нябошчыцкі вялікдзень» (аўторак пасьля праводнай нядзелі) рожніцца ад іншых дзядоў тым, што ў гэты дзень панябошчыцкі банкет устраіваецца на магілках. У гэты дзень гаспадыні пякуць «грыбкі», г. зн. тоўстые бліны с пшоннай мукі на масьлі і яйкох, збіраюць стравы з Вялікадня і, прыйшоўшы на магілкі, пакрываюць абрусом магілу і расстаўляюць на ей прынесенае, а самі кругом садовяцца. Што не з'ядуць, пакідаюць на могілках.

Восенскіе, або Змітроўскіе «дзяды» (24-го кастрычніка) спраўляюцца ў хаці, пры багатай заставе, скаромнымі стравамі сталоў.

